Жыві, Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

№ 112 (125) 12 чэрвеня 1991 г. Серада. ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ.

Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.


## Факты Аргументы Комментарии Суждения

### Попались...

(А. Диско). **Гродненскими чекистами была выявлена группа лиц — жителей Гродно и Минска, — намеревавшихся переместить через границу контрабанду в крупных размерах.**

При помощи пограничной и таможенной служб контрабандисты были задержаны с поличным на контрольно-пропускном пункте «Брузги» при попытке вывезти за границу хозяйственных товаров на сумму около 35 тысяч рублей в специально оборудованных тайниках в автомобилях.

### Кто — на новенькое?

(«Мегаполис — Экспресс»)
**В многочисленных коммерческих магазинах Тбилиси цены — просто запредельные. Но вот недавно на ценниках одной комиссионки вместо уже примелькавшихся глазу хвостатых нулей появилось нечто новенькое.**

Так, ценник на женские сапожки «хамелеон» гласил: «Меняю на однокомнатную квартиру». И в этом же магазине туфли с бриллиантовой пряжкой шли за... трехкомнатную. Выбор за покупателем: или ноги обуты, или крыша над головой.

### Маленький реванш

ВАРШАВА (Соб. инф.). **В бывшей резиденции ЦК ПОРП в Варшаве начала действовать биржа ценных бумаг.**

Министр Януш Левандовский назвал это довольно незначительное событие «историческим реваншем за коммунизм». Официальное открытие биржи состоится в июне.

### Выкинули номер

**По улицам Самары разъезжают автомобили без номеров. Несмотря на это вопиющее нарушение, гаишники не думают останавливать и штрафовать. У автоинспекции нет больше номерных знаков для частных машин.**

С декабря прошлого года в Самарскую область не поступило ни одной таблички с номерами. Делают их зэки в одном из соответствующих учреждений в Рязанской области. Начальство этой зоны объясняет срывы поставок номеров тем, что колония уже длительное время не получает металл и краску для их производства.

### ...И время от нас отставало

МОСКВА (Инфоновости). **Как сообщил член координационного совета «Демократической России», участники этого движения уже рассматривают в частном порядке возможные кандидатуры на пост Президента СССР.**

В обсуждаемом списке всего три человека: Б. Ельцин, А. Собчак и Ю. Афанасьев. Неизвестно пока, правда, мнение на этот счет самих потенциальных претендентов.

### Дапамога з берагоў Альбіёна

МІНСК (І. Сямёнаў). **У Мінску пабывала старшыня аддзялення англійскай грамадскай арганізацыі «Кампанія за ядзернае раззбраенне» доктар Мэры Блэнэн. Яна ўжо некалькі гадоў супрацоўнічае з Беларускім камітэтам абароны міру.**

Мінулай восенню з групай урачоў, вучоных і выкладчыкаў універсітэта яна наведала Гомельскую і Магілёўскую вобласці. І вось цяпер прывезла вынікі даследаванняў англійскіх спецыялістаў. Адбылася сустрэча ў Міністэрстве аховы здароўя БССР з удзелам беларускіх вучоных. Усе сышліся на думцы, што вывады і рэкамендацыі англічан карысныя. Спадабалася іх ідэя аб арганізацыі ў Мінску з дапамогай брытанскіх грамадскіх і рэлігійных арганізацый Цэнтра міласэрнасці па догляду за хворымі людзьмі. У англічан у гэтай справе ёсць добры вопыт. Абмеркавана пытанне аб стажыроўцы нашых спецыялістаў у Англіі, аб пастаўцы ў Беларусь неабходных прыбораў і лекаў.

ЗАВТРА ОЖИДАЕТСЯ СВЕТЛОЕ БУДУЩЕЕ!..

ПРОГНОЗ ПОГОДЫ

Рисунок Олега ПОПОВА.

### Любишь кататься?..

МОСКВА (Инфоновости). **«Российским депутатам предоставлены 173 квартиры в типовом панельном доме только на время депутатства. Продано за наличный расчет 322 автомашины (содержание служебных машин обошлось бы в 8—10 раз дороже).**

За 4 месяца 1991 года народные депутаты России совершили 44 поездки за рубеж. В них участвовало более 100 человек. 30 процентов поездок не входили в компетенцию Верховного Совета. 60—70 процентов поездок совершается по личным приглашениям и оплачивается не из бюджета Верховного Совета РСФСР. Сейчас завершается разработка плана поездок за границу на вторую половину 1991 года. Внеплановые поездки — в исключительных случаях», — сказал в интервью газете «Правда» Б. Ельцин.

«Будем жестко ограничивать наиболее активных в этом вопросе депутатов», — подчеркнул Борис Ельцин, отметив, что все вопросы привилегий депутатов он старается держать под контролем.

Дежурили Ирина ДЕРГАЧ и Алесь СВЕТЛАНИЧ.
**«ГОРЯЧИЙ ТЕЛЕФОН» РАБОТАЕТ ЕЖЕДНЕВНО С 9 ДО 11 ЧАСОВ. ТЕЛ. 32-24-02.**

Происшествия

## Самозванец на постаменте

**В прошлый понедельник вечером на площади Ленина произошло нечто из ряда вон выходящее. Прохожие и чиновники из Дома правительства были ошарашены: на памятник Владимиру Ильичу взобрался человек, обнаженный по пояс, устроился у ног скульптуры и стал возбужденно кричать. Площадь в последнее время видела многое, но такого в ее богатой истории еще не было.**

Очередная сенсация? Да, как любят выражаться противники обновляющейся прессы, еще один жареный факт. Но мимо него мы пройти не вправе. Это факт нашей жизни.

Полуобнаженный человек на памятнике сразу же привлек внимание работников милиции разных рангов вплоть до заместителя министра внутренних дел.

Процитировать дословно речь возмутителя спокойствия нет возможности. Она в значительной части состояла из бранных слов, адресованных милиции.

Человек не только кричал, он весьма рискованно передвигался по постаменту (а высота у него приличная), сползая на самый краешек. Те, кто не переносит острых ощущений, отворачивали головы. Хотелось что-то делать. Но что? Милиция выжидала, а у памятника разгорелся диспут.

Двое молодых мужчин, распалившись, стремились заразить своим негодованием других. Смысл его в том, что это милиция доводит людей до отчаяния, заставляет, как этого несчастного, идти на крайние, вызывающие шаги, чтобы привлечь к своим бедам внимание. Как всегда в таких случаях, приводились примеры, да я сам, мол, своими глазами видел, как милиционеры отдубасили пьяного, как резиновыми палками «воспитывали» подростка...

Хотелось спросить: почему же, уважаемые ораторы, обличаете всю милицию огульно? И вообще: неужели же в каждом конкретном случае обиженному лезть на памятник?

Вокруг постамента металась, как можно было догадаться, мать нарушителя спокойствия. Губами, перекошенными от горя, она то шептала, то кричала: «Слезай! А то опять попадет».

Человек с верхней плоскости постамента заскользил вниз, ухватившись за барельефное изображение. «Сорвется!» — забеспокоились люди. Несколько мужчин ринулись, чтобы подставить руки, не дать разбиться человеку. Но помощь не понадобилась. Неизвестный благополучно спрыгнул.

Работники милиции подхватили нарушителя, пытаясь отвести в машину. Но тут в сына вцепилась мать, зашумели мужики из небольшой толпы. В происходящее вмешался народный депутат Евгений Новиков. И милиция отпустила задержанного. Его увела домой мать.

Дежурный по подразделению, охраняющему Дом правительства, сообщил, что личность человека, взобравшегося на памятник, установлена. Это Василий Кривощекий, 1962 года рождения, четырежды судимый. 13 лет провел в заключении. После освобождения в январе нынешнего года не работает.

Минувшую ночь Кривощекий провел дома, но объяснение с милицией по поводу инцидента еще предстоит...

Факт для потехи обывателей забавный, но не стоит над ним потешаться. Перед нами еще одна изломанная судьба. И еще одно проявление озлобленности по отношению к милиции. Неужели без нее наша жизнь была бы спокойнее? Нет, конечно. Цивилизованным же нормам протеста мы пока не научились...

**Андрей НИКОЛЬСКИЙ.**
г. Минск.

На сесіі Вярхоўнага Савета БССР

## Маладым усюды дарога?

**У народзе кажуць: «Паміраць сабраўся, а жыта сей». Гэта значыць дбай пра будучы ўраджай. А як жа мы, людзі, дбаем пра нашу змену, нашу будучыню, нашых дзяцей і ўнукаў! Якімі яны вырастуць, як мы іх выхаваем веды якія дадзім, на які шлях накіруем!**

**Прама ці ўскосна гэтыя пытанні гучалі на сесіі ў пятніцу і ў аўторак пры абмеркаванні праектаў Законаў «Аб адукацыі» і «Аб моладзі».**

Ва ўступным слове былы міністр, а цяпер намеснік Старшыні Саўміна Міхаіл Дзямчук зазначыў, што праект — гэта пэўнае асэнсаванне таго, што на працягу некалькіх апошніх гадоў робіцца ў сферы адукацыі і знайшло падтрымку ў настаўнікаў, навучэнцаў, бацькоў, грамадскасці. У праекце замацаваны адзін з прынцыпаў нашага суверэнітэту — стварэнне ўласнай і незалежнай нацыянальнай сістэмы адукацыі. Гэта значыць такой, якая мае свой уласны твар і разам з тым адлюстроўвае лепшыя ўзоры адукацыйных сістэм свету.

Мы многа страцілі ад таго, што ў пэўны час недаацанілі значэнне адукацыі, што яе, як і культуру, пасадзілі на астаткавы прынцып фінансавання ды і крыўдзілі наогул. Таму ў праекце закладзена лічба ў дзесяць працэнтаў ад бюджэту рэспублікі на гэтыя патрэбы.

Пры абмеркаванні праекта вострыя спрэчкі выклікаў 12-ы артыкул, дзе ідзе гаворка пра адукацыю і палітычную дзейнасць. Паводле яго, у дзяржаўных установах адукацыі і выхавання ўсіх тыпаў не дапускаецца стварэнне і дзейнасць структур палітычных партый і палітычных аб'яднанняў, якія маюць фіксаваныя членства і статут. Не дапускаецца фінансаванне з дзяржаўнага бюджэту дзейнасці дзіцячых арганізацый, створаных на аснове праграмных і статутных дакументаў пэўных палітычных партый і палітычных аб'яднанняў. Навучальныя планы і праграмы дысцыплін, якія асвятляюць у той ці іншай ступені дзейнасць або ідэалогію палітычных партый і палітычных аб'яднанняў, не могуць вызначаць сярод іх прыярытэты і, адлюстроўваючы навучальны матэрыял, грунтуюцца на плюралізме і павазе да палітычных перакананняў любых дазволеных законам аб'яднанняў грамадзян.

Частка дэпутатаў выказвалася, што гэты артыкул можа ўвогуле прывесці да забароны на прафесію, што яго трэба выключыць. Другія зазначалі, што нідзе не існуе дэпалітызаванай адукацыі, што ў артыкуле закладзены дыскрымінацыйныя меры ў адносінах да правоў чалавека.

Думаецца, сутнасць усіх гэтых спрэчак трапна ахарактарызаваў Станіслаў Шушкевіч, зазначыўшы, што «так змагацца за камуністычную «стэрыльнасць» проста не належыць камуністам, якія маюць уладу. А пайменнае галасаванне пакажа, каму больш дарагая камуністычнасць, чым адукацыя нашай моладзі».

Праект закона прыняты ў першым чытанні. Думаецца, што другое чытанне будзе нялёгкім, бо спрэчкі вакол 12-га артыкула будуць працягвацца.

***

Учарашняе ранішняе пасяджэнне пачалося з абмеркавання праекта Закона «Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў Беларускай ССР». Праект падрыхтаваны творчым калектывам супрацоўнікаў Інстытута філасофіі і права АН БССР, рабочымі групамі Камісіі па справах моладзі.

Старшыня Камісіі Валерый Курдзюкоў зазначыў, што ў бліжэйшыя гады маладое пакаленне будзе складаць аснову эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця рэспублікі. Моладзь у нашым грамадстве — гэта значная сацыяльная група. Яна складае прыкладна трэць працуючых. Каля 30 працэнтаў насельніцтва — грамадзяне ад 14 да 30 гадоў. І жывецца ім сёння вельмі няпроста: у многіх — нізкія заробкі, няма свайго жылля. За апошнія гады ў рэспубліцы рэзка знізіўся інтэлектуальны патэнцыял грамадства. Сучасны ўзровень народнай адукацыі, слабая вучэбна-матэрыяльная база не дазваляюць рыхтаваць маладых спецыялістаў сусветнага ўзроўню.

Таму праекты законаў аб адукацыі і моладзі цесна звязаныя, скіраваныя ў заўтрашні дзень. Але, як зазначыў дэпутат Аляксандр Вярцінскі, рэаліі сённяшняга дня вымагаюць актыўных і канкрэтных мер.

***

Безумоўна, ключавым пытаннем дня было абмеркаванне праекта Саюзнага дагавора. З дакладам выступіў намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Васіль Шаладонаў. Ён падкрэсліў, што прадстаўлены праект дапрацаваны з улікам абмеркавання ў маі і чэрвені членамі падрыхтоўчага камітэта, што па многіх спрэчных пытаннях дасягнуты кампрамісы і пагадненні. Да падпісання дагавора трэба падысці з улікам усіх меркаванняў, прапаноў, каб найпаўней адлюстраваць думку беларускага народа.

**Іван ІЛЬЧЭНКА.**

На шляху да новай Канстытуцыі

## Спяшайся паціху

**Яшчэ адзін крок насустрач новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь быў зроблены на чарговым пасяджэнні Канстытуцыйнай камісіі, якое вёў Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Мікалай Дземянцей. Так, гэта не памылка. Менавіта Рэспублікі Беларусь.**

З такой назвай пасля кароткіх спрэчак пагадзіліся прысутныя.

Спяшайся паціху ці лепш сем разоў адмерай — менавіта пад такім лейтматывам праходзіла абмеркаванне раздзелаў «Асновы канстытуцыйнага ладу» і «Асоба, грамадства, дзяржава».

Асабліва гэта датычылася 19-га артыкула, дзе гаворыцца пра сімвалы рэспублікі.

Прафесар БДУ імя Леніна Іосіф Юхо зазначыў, што ў праекце Канстытуцыі вельмі слаба адлюстраваны нацыянальны характар, не ўключаны гістарычныя рэаліі. Яго канкрэтная прапанова заключалася ў тым, што ў новай Канстытуцыі павінна быць запісана: дзяржаўным гербам рэспублікі з'яўляецца Пагоня з падрабязным яго апісаннем, а дзяржаўным сцягам — бел-чырвона-белы.

Ніхто нацыянальных сімвалаў не адмаўляе і не забараняе, — зазначыў Мікалай Дземянцей. Але ці варта паспешліва і адназначна, не параіўшыся з народам, узводзіць іх у ранг дзяржаўных?

У праекце, і з гэтым пагадзілася большасць, канкрэтна і ёміста дадзена азначэнне, што «Рэспубліка Беларусь — суверэнная дзяржава — валодае паўнатой дзяржаўнай улады на сваёй тэрыторыі, самастойна праводзіць унутраную і знешнюю палітыку». Дзяржава прызнае асобу, яе жыццё, гонар, правы і свабоды вышэйшай каштоўнасцю. Але грамадзянін таксама адказны перад дзяржавай за няўхільнае выкананне абавязкаў, ускладзеных Канстытуцыяй.

Думаецца, новым і важным з'яўляецца артыкул, дзе вызначаюцца адносіны асобы да рэлігіі, веравызнання, яе ўдзелу ў адпраўленні рэлігійных культаў, рытуалаў, абрадаў, вучэнняў.

Не менш важным з'яўляецца і 32-гі артыкул, дзе сцвярджаецца, што кожнаму гарантуецца права на свабоду перакананняў, свабоднае выказванне іх. Ніхто не можа быць прымушаным у выяўленні сваіх перакананняў. Тут жа сказана, што цэнзура ў сродках масавай інфармацыі не дапускаецца, як і манапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі дзяржавай, грамадскімі аб'яднаннямі, іншымі групамі ці асобамі.

А вось артыкул, у якім гаворыцца пра гарантыі свабоды сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый, выклікаў розныя меркаванні. Сутнасць іх у тым, што толькі з паведамлення ці з паведамлення і дазволу ўлад можна праводзіць гэтыя акцыі. Выказвалася перасцярога, што ў гэты час могуць парушацца правы і свабоды іншых грамадзян.

Аргументы, мякка кажучы, гучалі знаёмыя, з арсеналу тых часоў, калі мы хадзілі строга «ва фрунт» і ў адпаведныя дні года.

І яшчэ хочацца заўважыць, што некаторыя артыкулы праекта пакуль што нагадваюць падрабязныя інструкцыі. Безумоўна, у асноўным Законе гэта непрымальна. Канстытуцыя ствараецца не на адзін дзень і год, таму нейкія часовыя з'явы, складанасці і супярэчнасці не павінны накладваць на яе адбітак.

Таксама дасягнута згода, каб працаваць больш канструктыўна і вынікова. Таму мяркуецца праводзіць такія пасяджэнні сістэматычна, па панядзелках.

Ёсць паразуменне — і ўжо гэта добра.

**Іван РУБІН.**

## ПАСТАНОВА
## Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

**Аб выбранні т. Ярмоленкава Ф. Ф. членам Мінскага абласнога суда і т. Басава М. П. членам Мінскага гарадскога суда**

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Выбраць
ЯРМОЛЕНКАВА Фёдара Фёдаравіча — членам Мінскага абласнога суда.
БАСАВА Міхаіла Пятровіча — членам Мінскага гарадскога суда.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**
**М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**
7 чэрвеня 1991 года,
гор. Мінск.

### Да нашых чытачоў!

**Сёння чытачы «Народнай газеты» атрымліваюць чарговы ўкладыш з афіцыйнымі матэрыяламі.**

**У самым пачатку мы абяцалі, што такія дадаткі будуць бясплатнымі. Так яно і ёсць. Якія б цяжкасці ні мела «Народная газета», у тым ліку і матэрыяльныя, слова сваё перад чытачамі мы стрымаем.**

Тэма дня

## Голад—не цётка

**Дзякуй Богу, беларускія парламентарыі гэта, нарэшце, зразумелі і актыўна прынялі ўдзел у абмеркаванні заканадаўчых актаў аб прыярытэтным развіцці вёскі.**

Што ж, голад не цётка нават для дэпутатаў. І, кажучы шчыра, гэтае разуменне добра чытаецца і ў прынятым нядаўна імі законе, які «каштуе» больш за 4,5 мільярда рублёў.

Вялікія грошы. Але надзея, што яны выцягнуць беларускую сельскую гаспадарку з таго эканамічна-фінансавага балота, у якое яна паступова коціцца, можа быць толькі ў тым выпадку, калі цэны на сельскую прадукцыю і «гарадскую» будуць эквівалентнымі, — падкрэсліў старшыня аграрнай камісіі беларускага парламента У. Гаркун на прэс-канферэнцыі, якая адбылася днямі з нагоды важнасці і актуальнасці прынятых парламентам дакументаў.

Акрамя яго, на пытанні журналістаў адказвалі народны дэпутат І. Макарэвіч, старшыня пухавіцкага калгаса «Барацьба», і старшыня Камітэта па зямельнай рэформе М. Русы.

Калі коратка падсумаваць сказанае ўсімі, то галоўную думку можна выказаць так: не трэба спяшацца рушыць калгасна-саўгасны лад (які зараз усё-такі корміць народ), не стварыўшы новую сістэму гаспадарання ў сельскай гаспадарцы. А гэта справа доўгая і цяжкая, таму цягнуць гэты воз трэба імкнуцца ўсім разам: калгасам, саўгасам, фермерам...

Шмат пытанняў было наконт зямлі, увогуле — зямельнай рэформы. Хоць цяжкасцей у гэтай справе многа, але ж рэформа ідзе і будзе ісці яшчэ шпарчэй у далейшым, — даводзілі кампетэнтныя таварышы прысутным. І словы свае падмацоўвалі канкрэтнымі лічбамі, не верыць якім было нельга.

Адным словам, справа пакрысе рухаецца. Зараз галоўнае зноў « не забыць» нам усім, што трэцяя частка насельніцтва Беларусі жыве на вёсцы, а калі лічыць сялянскіх сыноў ды дачок у гарадах, то й пабольш людзей « ад зямлі». А значыць, ігнараваць важнасць у нашым жыцці «сельскага пытання» больш нельга — дойдзем да голаду.

Было прыемна бачыць, што гэтыя простыя ісціны добра разумеліся і «гаспадарамі» прэс-канферэнцыі, і іх гасцямі, мяркуючы па пытаннях. Так што, ў эканамічных пытаннях быў поўны кансенсус з абодвух бакоў.

А вось калі дайшлі да палітыкі, то тут прыкметна «закульгалі». Не ўсім прысутным чамусьці моцна падабаецца Беларуская сялянская партыя і яе лідэры. Справа дайшла да выказванняў наконт іх сацыяльнага паходжання: маўляў, няма сярод іх сялян...

Цікавая думка. Але ж гэта як паглядзець. Бо й сам Ленін, як вядома, молатам па накавальні штодзённа не біў, але ж, тым не менш, з'яўляўся правадыром «партыі рабочага класа». Я ж, добра ведаючы многіх з кіраўніцтва Беларускай сялянскай партыі, мушу ўсё ж сказаць, што яны гэткія ж сялянскія сыны, як і большасць прысутных на прэс-канферэнцыі.

Вышэйпазначаны інцыдэнт быў нязначным, але ж у ім, як у кроплі вады, адлюстравалася наша бурлівае перабудаванае жыццё: не можам мы па-ранейшаму даць рады сваім палітычным густам у пытаннях, якія патрабуюць цвярозасці роздуму, агульнай згоды і павагі да аб'ектыўных эканамічных законаў, а таксама — да апанентаў.

Што ж, будзем усяму гэтаму і далей патроху вучыцца. Тым больш, што заканадаўчыя акты па аграпрамысловых праблемах беларускія парламентарыі прынялі на сённяшні дзень добрыя. Зараз клопат пра тое, каб яны запрацавалі на поўную сваю моц. Будзем жа гэтага не толькі чакаць, але і рабіць усё магчымае дзеля добрай справы.

**Павел СТАСЕВІЧ,**
**аглядальнік «Народнай газеты» па аграрных пытаннях.**

Трывожна!

## НЕ КОЖНЫ РЫЗЫКНЕ ШУКАЦЬ ШЧАСЦЯ НА УРАЛЕ

### Аглядальнік «Народнай газеты» пабываў напярэдадні выбараў прэзідэнта Расіі ў Чалябінску. Што ён убачыў і пачуў?

Словы, вынесеныя ў загаловак, адносяцца не толькі да кандыдатаў у прэзідэнты Расіі (як вядома, Мікалай Рыжкоў даехаў толькі да Уфы, а з Урала на сустрэчу з ім памчаліся першыя сакратары райкамаў КПСС і іншыя кіраўнікі; Вадзім Бакацін палічыў за лепшае нават не падбіраць davераных асоб на Урале), але і да кожнага чалавека, які задумаецца перад картай нашай краіны, куды б паехаць, дзе ўладкавацца. Урал —дзіва дзіўнае, цуда з цудаў на нашай планеце, ператвораны ў месца пачварнае, ім ужо можна палохаць не толькі дзяцей, але і дарослых.

Мне гаварылі: калі едзеш у Чалябінск, прыхапі з сабой харчоў, і не сёе-тое, а пабольш. Недахопам ежы, здаецца, у нашай краіне ўжо нікога не здзівіш, але тое, як Савецкі Саюз корміць сваіх кавалёў (будзем умоўна называць так тых, хто з Чалябінска адпраўляе ва ўсе бакі краіны пятую частку труб вялікіх дыяметраў, адну трэць ферасплаваў і шарыкападшыпнікавай сталі, звыш 60 працэнтаў нержавейкі і шмат іншых вырабаў з металу), не можа не ўразіць. Звычайнай з'явай становіцца адсутнасць у крамах хлеба, ёсць такія людзі, што з лістапада мінулага года не могуць атрымаць па картках мяса (300 грамаў на чалавека ў месяц, дзе ўжо там да аптымальных медыцынскіх норм!), масла. Запалкі і тыя сталі прадавацца толькі па картках... Такое тут жыццё.

Дастаткова праехаць побач з металургічным камбінатам, каб уявіць, што такое пекла на зямлі. Клубы дыму розных адценняў ірвуцца з комінаў вялікіх і маленькіх. Неба ўжо не можа прымаць сотні тысяч тон гэтай атруты, і яна ядавітымі хмарамі распаўзаецца па зямлі, насычае і без таго беднае кіслародам паветра самымі рознымі пахамі і колерамі. «Гэта яшчэ шчасце,— казалі мясцовыя жыхары,— што сёння няма выкідаў. Калі б яны былі, тады хоць кладзіся і плач...» Да плачу справа не дайшла, але да слёз было недалёка. Увесь тыдзень мучыў кашаль, але мне што, я прыехаў і паехаў, а сорак працэнтаў падлеткаў Металургічнага раёна Чалябінска афіцыйна прызнаны хранічна хворымі, семдзесят працэнтаў дзяцей дашкольнага ўзросту пакутуюць на розныя захворванні скуры.

Гэта дзеці. А дарослыя хіба лепш? А пенсіянеры? Іван Андрэевіч Малышкін, ветэран вайны і працы, з якім я пазнаёміўся на вуліцы, звыкла крыў матам усё і ўсіх, апраўдаючы пра сваё жыццё. У Арэнбургу, скардзіўся ён, людзі жывуць лепш. Там такім ваякам, як я, сядытады выдаюць масла, мяса, а ў нашым магазіне «Ветэран» частуюць малаком, кефірам ды дарагімі кансервамі «ласось», ды яшчэ гарэлкі для ветэранаў хоць заліся, яна аж у галаве ўжо плёхаецца.

— А як Вы думаеце, Іван Андрэевіч, што-небудзь зменіцца пасля выбараў прэзідэнта Расіі?— пытаюся ў старога чалавека.

— Ды пайшлі яны ўсе...,— Малышкін, які ваяваў на двух франтах, працаваў бетоншчыкам, не хаваў сваёй злосці на бязладнасць жыцця, і для кожнага з прэтэндэнтаў у яго не было ніводнага больш-менш нармальнага слова. Мы гутарылі з ім на цэнтральнай вуліцы Сацыялістычнага гарадка (так назвалі жылы пасёлак ме-

(Заканчэнне на 5-й стар.).

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Спадчына

# ...І зайграе свята

Традыцыйнае свята «Браслаўскія заранкі» сабрала ў райцэнтры аматараў і прыхільнікаў фальклору не толькі з Браслаўскага раёна, але і гасцей з суседніх рэспублік Латвіі і Літвы, шматлікіх турыстаў.

У лесапарку «Леснічоўка» гучалі песні аматарскіх песенных калектываў азёрнага краю, працавалі розныя атракцыёны, бяспройгрышная латарэя давала ўсім роўны шанц атрымаць памятны сувенір. А знаўцы мастацтва народных майстроў маглі набыць арыгінальныя вырабы рэзчыкаў, ганчароў, творы мясцовых мастакоў.

Але галоўным ўсё ж на свяце была песня.

Яўген КАЗЮЛЯ (БЕЛТА).

НА ЗДЫМКАХ:

● Удзельнікі свята на вуліцах Браслава.

● Ганчарнае мастацтва дэманструе браслаўчанка Ларыса Кузьмінова.




О том, что волнует

# Жизнь моя—в жестянке...

**В сорок четвертом меня, мальчишку, догнала война — изуродовала тело, ампутировали левую конечность. Передвигаться могу только на машине с ручным управлением.**

Пока бегали по дорогам такие жестянки (так в народе называют эти легковушки), не было проблем. Но потом стали говорить о социальной защищенности престарелых, малоимущих и инвалидов, а поступали, как у нас водится, наоборот. В 1987 году московский завод АЗЛК прекратил выпуск машин с ручным управлением. Сижу в каменном мешке дома и прошу АЗЛК сжалиться над инвалидом детства. Нет ответа. Читаю Указ Президента о социальной защищенности инвалидов: «будут обеспечены бесплатным транспортом». Обрадовался, — пишу Президенту. Нет ответа. Смотрю Российское телевидение. Там рассказывают, как некая тетя Соня звонила всем, от Рафика Нишановича до Раисы Максимовны. Дай, думаю, напишу Раисе Максимовне. Понял, что письмо до адресата не дошло, зато попало в карусель по наезженной колее — Совмин СССР, БССР и, наконец, Минсобес БССР. Ответ получил из горсобеса — продаем машины в первую очередь инвалидам ВОВ. А я, как жертва войны, никем не взят на учет. Вот и получается, что, как ни крути, а жизнь моя — в жестянке...

Александр СОРОЧИНСКИЙ.
г. Борисов.

# Як набыць Біблію

**Мой ліст — адказ на нататку Івана Паўлоўскага «Кошт Біблії — бязбожны», змешчаную ў «Народнай газеце» 28 мая г. г.**

Сёння, вядома, небывалая цікавасць да ўсяго забароненага раней, перш за ўсё да рэлігійнай літаратуры. А яе багата на любы густ — ад крышнаісцкай да традыцыйнай хрысціянскай. Але чалавеку без пэўнай падрыхтоўкі яе чытаць — што блукаць у незнаёмым лесе. І хто імкнецца набыць Біблію дзеля цікаўнасці («што там пракорі пра наш час казалі?»), то раю з такой толькі мэтай не набываць гэтую кнігу. Біблія ўтрымлівае аграмадны «Стары запавет», які цяжка адолець таму, хто ўпершыню ўзяўся чытаць, і «Новы «запавет», які змяшчае хрысціянскае вучэнне. «Новы запавет» апошнім часам з'явіўся амаль ва ўсіх кіёсках Саюздруку. І кошт вельмі сціплы для такой кнігі — ад 5 да 10 рублёў. Фармат амаль кішэнны. «Новы запавет» як раз для тых, хто стаіць на пачатку знаёмства з Біблійй, ён і больш даступны, і больш важны для хрысціян, чым «Стары запавет». Зусім не абавязкова гнацца за таўшчэзным сторублёвым выданнем з букіністычных або кааператыўных крамаў. Так што, хто шукае духоўнае пажывы, той без праблем знойдзе, патрэбна толькі жаданне. І няма чаго наракаць на кааператыўныя цэны і выстаўляць немаёмаснага працаўніка яшчэ і ахвярай кнігагандлю. Да таго ж, Святое пісанне заўсёды ёсць у любой царкве, перш за ўсё яго можна набыць у баптыстаў ды і прадстаўнікоў іншых канфесій. Галоўнае — змест, а не прыгажосць вокладкі.

А. КАРОЛЬ.
г. Мінск.

# Кому нужны такие законы?

**Сейчас моей дочке год и семь месяцев. Я не работаю. У мужа оклад 270 рублей. Можно ли на эти деньги прожить семье сегодня?**

Один год и пять месяцев на дочку «выбили» пособие в 80 рублей. За шестой месяц деньги где-то затерялись, а Партизанский райсобес предложил нам самим искать концы.

Прочитала в «Народной газете», что всем матерям положена компенсация 60 рублей в месяц, и обрадовалась. Как выяснилось, преждевременно. В Партизанском райисполкоме ответили:

— За апрель получите, а с мая — не положено.

Аргументировали тем, что с мая компенсация добавляется к зарплате, а поскольку я не работаю, то получать ее не имею права. Предлагают устроиться хоть дворником, но работать. Но куда же деть маленького ребенка? Очередь в детский сад больше года.

Что ж это за такие законы и постановления, которые оставляют без средств к существованию тысячи людей?

З. АРАБИНА.
г. Минск.

# Не слишком ли дорого заплачено?

**В канун Дня Победы прочитал документальную повесть Героя Советского Союза Елены Мазаник «Возмездие». Я склоняю голову перед людьми, совершившими героический подвиг. Они ежеминутно рисковали своей жизнью, выполняя задание советского командования по уничтожению палача белорусского народа, наместника Гитлера Вильгельма фон Кубе.**

Из других источников я узнал, что в связи с убийством фон Кубе в Минске было убито и казнено более шести тысяч советских людей. И каких людей! И восхищение подвигом наших подпольщиков и партизан смешалось с болью. Разве адекватна цена жизни фон Кубе и жизни шести тысяч наших людей?

Стоило ли нашему командованию идти на этот шаг, сознавая, что это не изменит ход войны и соотношение сил? Ведь на смену фон Кубе пришел генерал СД Готтверг, еще более запятнавший свои руки в крови советских людей. Конечно, у войны свои законы. Она по-своему распоряжается судьбами людей. Но несомненно, погибшие люди в те черные дни принесли бы куда больше пользы для приближения победы.

Я высказал свое мнение, прочитав книгу Е. Мазаник. Суждения могут быть разные. Мы и живем, чтобы осмыслить все через столько лет.

М. МОСКАЛЕВ.
г. Бобруйск.

# Забытый Богом уголок...

**Наш поселок Дорожный (прежде — деревня Высокие Ляды, а по местному—просто Силичев поселок) уже много лет отрезан от цивилизации.**

А до нее, точнее, до шоссе Минск—Москва, всего-то полкилометра. Живут в Дорожном всего 8 человек, стоит восемь хат... Почти все жители уже пенсионеры. Они лишены возможности получать почту, вызвать «скорую помощь», завезти топливо... А все дело в том, что сюда из-за плохой дороги невозможно доехать.

Дорога, если ее можно так назвать, проходит по полю, всегда перепаханному. По ней можно ездить только на тракторах. А ведь раньше здесь была хорошая дорога, тянулась она от шоссе до деревни Плисса, куда мы в детстве ходили в школу. Потом построили птицефабрику, и участок от Плиссы до нашего поселка запахали. Оставался еще участок от поселка до шоссе. Но земли вокруг поселка передали экспериментальной базе «Жодино», и по решению ее бывшего директора Холенкова этот участок дороги... тоже был запахан.

Не так давно наш поселок вошел в состав Жодинского сельсовета. Мы обращались за помощью к председателю А. Серому, но ничего не изменилось.

Я пишу по поручению всех жителей поселка и от себя лично. Мне больно рассказывать о том, что, когда в прошлом году в деревне умирала от инсульта моя мать, учительница-пенсионерка, «скорая помощь» не смогла подъехать к дому...

Геннадий КОЖЕКИН.
Смолевичский район.

# Настало время жить достойно

**В Пинске создан независимый клуб избирателей, чтобы исключить даже малейшую попытку манипуляции во время выборной кампании. Члены клуба считают, что существующий закон о выборах позволяет это делать. За примерами не надо далеко ходить.**

Потому мы считаем, что кандидаты в депутаты любого ранга должны баллотироваться и избираться только в один Совет. Что касается политических партий и общественных организаций, за ними должно сохраняться право только выдвижения кандидатур, а в бюллетень вноситься не менее двух кандидатур. Избранный депутат, состоящий в той или иной партии, обязан выйти из ее рядов, так как он становится защитником народных интересов, а не узкопартийных. Кандидаты в депутаты выдвигаются по месту жительства или по месту рождения с цензом оседлости для депутатов Верховного Совета республики 10 лет и для депутатов местных Советов — 5 лет. Председатель Верховного Совета, как и председатели других Советов, избираются жителями республики, области, города, района, села.

Нынешний Верховный Совет громоздкий. Достаточно, например, 200 человек. Депутатов от общественных организаций, особенно инвалидов, больных, освободить (конечно, по их согласию). Зачем их «мучить» месячными, двухмесячными заседаниями. Омоложение депутатского корпуса должно вестись постоянно. Например, следовало бы ввести в закон положение о том, что депутат, достигший 65-летнего возраста, автоматически выбывает из Совета.

И еще. На одной из сессий следовало бы переименовать БССР в Белорусскую Суверенную Республику. А на следующих выборах создать две палаты: Совет Республики из 200 человек и Совет меньшинств—40—50 депутатов.

Уже на этой сессии нужно принять конкретные постановления о социальной защите малоимущих, пенсионеров, одиноких, определить прожиточный минимум, позаботиться о многодетных семьях, матерях-одиночках, отменить на деле, а не на словах, всяческие привилегии.

Настало время жить и творить по совести, не унижая человеческого достоинства.

Владимир БОРОВИКОВ,
член Пинского городского независимого клуба избирателей, ветеран войны и труда.

Жизнь, как она есть

# „Я БОЮСЬ!"

## Чем ближе срок ухода на армейскую службу, тем сильнее терзает многих парней страх...

В АРМИЮ Лешку родня провожала два раза. Первый прощальный ужин был торжественный и обильный. Будущий молодой боец чинно сидел во главе стола и терпеливо принимал напутствие старших. Но на медкомиссии Лешку тормознули — плохие анализы. Пока подлечивался да пересдавал их, осенний призыв кончился, ребята ушли на службу. В общем, вышла ему отсрочка... Весной в дом снова принесли повестку из военкомата. Второй отходной ужин был уже по-семейному скромен, без помпезности. Родственники пошучивали. Леха же, напротив, был чем-то явно озабочен, то и дело щурился, морщил лоб. А размышлял он, как потом признался, о том, что опять портить себе анализы ему не резон. Это, во-первых, снова гробить свое здоровье химией, а, во-вторых, уже будет просто подозрительно: в медкомиссии ведь тоже не новички работают. Но фанфары призыва все слышней и слышней — куда денешься от армии? И тогда Лешка решил «косить». На медкомиссии врач его спрашивает:

— Фамилия?

Он в ответ, вытаращив глаза:

— Не курю!

А потом, подумавши, добавил:

— Спорим, я ваш фикус съем, не запивая!

Врачи переглянулись, но препекаться с парнем себе не позволили. Они просто прямиком отправили его в Новинки — в 19-е психиатрическое отделение для допризывников.

Заведует этим отделением врач Иван Иванович Горбач. Мне показался он человеком внимательным, терпеливым и очень приветливым. Ординаторская, где он работает, почти не напоминает казенный кабинет. Цветы, мягкие кресла, на стене — репродукция с известной картины Бродского: Владимир Ильич Ленин сосредоточенно сидит в глубоком белом кресле с книгой в руках. Вот и Иван Иванович садится в кресло, берет книгу — Уголовный кодекс БССР — и начинает знакомиться с допризывниками. Без всяких там анкетных вопросов, без мудреных психологических тестов — это все потом, позже. Поначалу просто идет разговор «за жизнь», которая сурова и, конечно же, несправедлива, но что поделаешь — надо подчиняться. Заодно и с Кодексом парня познакомит: за уклонение от службы от трех до пяти.

«Косцы», то есть симулянты, начинают потихоньку колоться. Я далека от иллюзий, что приводит их в чувство строка закона, озвученная Иваном Ивановичем. Ребята из газет и телевидения уже давно выучили наизусть, что государство наше пока неправовое, а законы — несовершенные. Может быть, они идут на откровенность, потому что их подкупает человеческий тон доктора, его индивидуальное отношение к каждому (особенно по сравнению с военкоматами, где разговаривают с ними, как и забирают в армию, — поголовно, табунно, тотально)?.. Словом, здесь мальчики довольно быстро забывают о своих первоначальных планах — притворяться психами. Они начинают говорить правду. Лешку так прорвало, как на исповеди:

— Я боюсь! Я чувствую, что не выдержу, что в армии меня убьют. А у меня в жизни столько планов! Я хочу работать, зарабатывать, хочу путешествовать, хочу иметь красивую и верную жену.

— Но ведь в военном билете у тебя будет седьмая статья—психопатия! Ты представляешь, что это значит?

— Подумаешь! Через каких-то десять лет переосвидетельствуют и снимут...

Ну, конечно! Что значит «какие-то» десять лет, когда тебе только восемнадцать?.. Увы, таких отчаянных монологов в 19-м отделении я выслушала с десяток. Ребята говорили откровенно, хотя знали, что я — журналистка, что собираю материал для публикации. Но больничные стены, видимо, что-то меняют в психологии человека: по крайней мере, люди чаще, чем на гражданке, снимают здесь свои маски. А, может, так откровенно парни говорили потому, что рядом сидел их лечащий врач, а призыв в армию был для них в данный момент самым больным местом?

**АНАТОЛИЙ К.:**

**— Ребята, что постарше, мне сказали: «Армия — дурдом. Если можешь — не ходи». Вот я и решил: лучше сейчас притворюсь дуриком, чем после службы попасть в Новинки по-настоящему.**

**СЕРГЕЙ С.:**

**— Я понимаю безысходность ситуации, все равно ведь загонят. Эх... А я не хочу учиться стрелять в людей! Это страшно, человек не должен этого уметь! В человека нельзя целиться даже понарошку...**

**ДИМА Х.:**

**— Физическое развитие? Разве это главное? Время зря уйдет, вот что обидно, а для музыканта два года — вечность. Да, я боюсь армии, но не трудностей и лишений, а потому что там, обезличка. Тебя как личности нет, ты как бы растворяешься в общей массе. Не хочу быть массой...**

**САША К.:**

**— Дружок из соседнего двора рассказывал, как сержанты издевались над ними. Зверье, сволочи! Часами подряд заставляли ребят висеть на руках на турнике. Кто не выдерживал, падал, били так, что отбивали печень. Или еще было «развлечение»: заставляли солдат на турнике сидеть верхом—и чтоб руками не держались. Кто терял равновесие, били. И приговаривали: «Надо было куковать!» Один парень от этих издевательств повесился. Мороз по коже... Только и слышишь: «Ты обязан Родину защищать»... При чем тут патриотизм? Я просто не хочу, чтобы надо мной издевались!**

**ВАЛЕРИЙ С.:**

**— Мой двоюродный брат в армии был убит. За десять дней до его дембеля родителям из армии прислали извещение, что сын умер. Несчастный случай, мол, поскользнулся на арбузной корке, упал и ударился виском. Как в кино. Представляете? Потом привезли в цинковом гробу. Гроб даже без окошка. Все просят открыть его, чтобы попрощаться — не разрешают. Почему, спрашивается? Ну, мать совсем обезумела от горя, на следующий день после похорон ее нашли на кладбище, она руками раскапывала могилу сына и причитала: «Что сделали с моим сыном?» Уже год прошел с тех пор, но родственников на пушечный выстрел не подпускают к документам. Ответ один: «Поскользнулся на арбузной корке». Какой цинизм!**

Когда мы остались наедине, доктор Горбач сказал:

— У нас существует девять психиатрических статей, по которым освобождают от службы в армии. Ребята, с которыми вы только что разговаривали, ни под одну из них, естественно, не подходят. Их заболевание не медицинское, а, скорее, социально-педагогическое, социально-общественное. Неуверенность, страх, депрессию переживает сейчас все общество в целом, не так ли? Все наше общество больно — что ж удивляться этим юношам? Словом, я, как врач, считаю, что от службы в армии люди должны освобождаться не только по здоровью, но и по характеру — и это в интересах самой армии. Иначе трагедий не избежать.

ЗА ПРОШЛЫЙ год в 19-м отделении Новинок (замечу, что отделение это областное, из республики попадают сюда редко) побывало 1195 человек. Немало, верно? Большинство ребят, конечно, действительно больны, с разной степенью умственной отсталости (тоже жуткая проблема: ведь цифра эта постоянно увеличивается). Меньшая часть из этой тысячи — «косцы», т. е. ребята с установочным поведением, с осознанным нежеланием идти в армию.

Меньшая часть... Но она ведь есть! В военкоматах их чаще всего безоговорочно считают лоботрясами, разгильдяями, хулиганами. Пожалуй, я бы не стала рубить так сплеча. Просмотрев личные дела допризывников, прочитав характеристики, данные им школой, убеждаешься, что это обыкновенные нормальные ребята. И даже недостатки их — тоже обыкновенные для этого возраста. «Вспыльчивый, эмоциональный...», «Признает только свое мнение...», «Политикой интересуется, но имеет свое критическое мнение...», «Физически трудиться не любит, но увлекается компьютерной техникой. Начитан». Даже если учесть, что школьные характеристики не самые глубокие, не самые психологически точные, все-таки, согласитесь, отпетым хулиганьем считать этих ребят трудно. И от этого вдвойне страшно. Нет, вы только задумайтесь, на что добровольно решаются идти эти «лоботрясы», лишь бы не попасть на службу: они просят признать себя, молодых, сильных, психически неполноценными! А ведь такая запись в военном билете (что им прекрасно известно) грозит человеку немалыми ограничениями в социальном плане: они не получат водительских прав, их могут не пустить за границу, не примут работать на номерной завод, да и не только на номерной... И тем не менее люди добровольно идут на «статью»! Как же все-таки должна быть изуродована наша так называемая «нормальная» жизнь, чтобы наши дети добровольно желали считаться психами! До какой степени жестокими и унизительными должны быть отношения в армии, чтобы юноши, желая сохранить свое достоинство, здоровье, а то и жизнь, готовы были пойти на такой шаг...

Военные говорят: все дело в низком уровне патриотизма. Но откуда ему быть иным, когда страхом перед армией пронизаны буквально все поры нашего общества? Боятся подростки — боятся их родители...

Одна 25-летняя мама, сын которой еще только-только, можно сказать, самостоятельно научился ходить, призналась мне как-то в разговоре:

— Когда я узнала, что у меня родился мальчик, я заплакала: вот, думаю, родила ребеночка на муки—ведь ему предстоит идти в армию. В моем сознании это что-то вроде тюрьмы. От своих сверстников и от мужа я ни одного хорошего слова о солдатской службе не слышала. Скажите, ну почему такой высокий красивый долг—учиться защищать Родину — превратился у нас в какую-то страшную повинность, в тяжкое моральное испытание? Сыну нет еще и пяти лет, а я уже боюсь...

В каждом районном военкомате есть список «уклонистов» — тех, кто из призыва в призыв не является по повесткам, сколько бы их ни рассылали. Потеряв терпение, военкомат иногда устраивает «облаву»: бригада офицеров едет часов в 6—7 утра по домам, чтобы захватить такого «голубчика» еще тепленьким и, наконец, прямо в руки вручить ему повестку. (Иначе ведь потом даже не накажешь. Скажет: «Плохо оповестили». И как с гуся вода). Однажды в такой «облаве», которую проводил военкомат Советского района, участвовала и я. Что поразило: родители сами откровенно прячут своих детей, хитрят, изворачиваются, лгут, лишь бы не отдать чада на службу. Но иногда и без всяких уловок прямо в глаза офицерам из военкомата почти кричат:

— Вы сначала наведите порядок в армии, а потом я отдам вам своего сына!

Или:

— Когда отец умер и мы с сыном буквально нищенствовали на 105 рублей в месяц, государство о нас не вспоминало. А теперь спохватилось, да? Ничего мой сын такому государству не должен!

НАЧАЛЬНИК 2-го отдела военного комиссариата Белорусской ССР полковник Левченков, с которым я беседовала, обсуждая эту проблему, сказал:

— Страх и злоба... Все болячки в армию пришли с «гражданки». Пока не будет порядка в стране, не будет его и в армии. Раньше вокруг нашего здания забор стоял не выше этого стола. Родители приходили провожать своих сыновей, запросто жали друг другу руки, обнимались. Теперь наш военный комиссариат обнесли сеткой в два человеческих роста: иначе здесь во время призыва все разнесут по кирпичику. А когда я иду сквозь толпу родственников на службу, в спину мне могут прошипеть: «Фашист».

— А как Вы относитесь к альтернативной службе? Может быть, именно невозможность выбора так ожесточает людей? В конце концов, демократическое государство должно уважать личность, предусматривая для нее альтернативу.

— Если будет альтернативная служба, значит, должна быть создана и профессиональная армия. Но наша экономика такую армию еще не потянет. В любом случае, я считаю, защищать Родину должно быть и престижнее, и выгоднее, чем служить в альтернативном подразделении.

Должно быть престижнее... Пока же в догонку военкомам нередко несутся проклятия.

— Что, опять будете «клубничку» писать? Ну, как же, такая фактура, — с досадой сказал один из офицеров республиканского комиссариата, увидев меня с блокнотом.

Я пообещала, что не буду. Просто не получится. Уж слишком силен привкус горечи от этих «выигрышных фактов».

Елена МОЛОЧКО.
г. Минск.

Так хочется на миг вернуться в детство...

Фото Николая ЛЕБЕДИКА.

Народная газета

## Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

# Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве

Гэты Закон рэгулюе маёмасныя адносіны паміж суб'ектамі, якія ажыццяўляюць гаспадарчую і іншую дзейнасць пры эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве любога з іх з мэтай максімальна магчымага задавальнення ўзаемных прэтэнзій усіх зацікаўленых бакоў.

Закон распаўсюджваецца на маёмасныя адносіны юрыдычных і фізічных асоб, якія займаюцца на тэрыторыі Беларускай ССР гаспадарчай дзейнасцю незалежна ад форм уласнасці, уключаючы суб'ектаў гаспадарання іншых саюзных рэспублік і замежных дзяржаў.

### Раздзел I. МАЁМАСНАЯ АДКАЗНАСЦЬ СУБ'ЕКТА ГАСПАДАРАННЯ

**Артыкул 1.** Усе суб'екты гаспадарання нясуць поўную маёмасную адказнасць па сваіх абавязацельствах, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам.

Маёмасная адказнасць суб'екта гаспадарання распаўсюджваецца на маёмасць, якая належыць яму на праве ўласнасці або на праве валодання, карыстання, распараджэння ў межах, устаноўленых уласнікам або заканадаўчымі актамі Беларускай ССР.

**Артыкул 2.** Маёмасць суб'ектаў гаспадарання складаецца з матэрыяльных, фінансавых і нярэчыўных актываў.

У састаў матэрыяльных актываў уваходзяць асноўныя фонды і абаротныя сродкі.

Да фінансавых актываў адносяцца:

касавая наяўнасць, дэпазіты ў банках, уклады, чэкі, разліковыя дакументы ў дарозе, страхавыя полісы, пасведчанні і іншыя страхавыя дакументы;

укладанні ў дзяржаўныя або іншыя каштоўныя паперы;

спажывецкі крэдыт, які прадастаўляецца суб'ектам гаспадарання сваім работнікам;

паі і долевыя ўклады ў маёмасці іншых суб'ектаў гаспадарання;

іншыя фінансавыя активы.

Нярэчыўныя актывы складаюць:

гандлёвыя маркі і знакі, назвы, патэнты, пакеты дакументаў, ноу-хау, іншыя віды інтэлектуальнай уласнасці;

маёмасныя правы на карыстанне рэсурсамі;

іншыя нярэчыўныя актывы.

**Артыкул 3.** Фізічныя асобы нясуць маёмасную адказнасць па абавязацельствах прадпрыемстваў, уласнікамі якіх яны з'яўляюцца, у межах статутнага фонду прадпрыемства. Фізічныя асобы, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць, не ствараючы юрыдычную асобу, нясуць адказнасць па сваіх абавязацельствах усёй сваёй маёмасцю. Маёмасць, на якую не можа быць накіравана спагнанне, вызначаецца заканадаўствам Беларускай ССР.

**Артыкул 4.** Асобы, якія працуюць па найму, не нясуць маёмаснай адказнасці па даўгах суб'ектаў гаспадарання.

**Артыкул 5.** Справы аб маёмаснай адказнасці, звязаныя з эканамічнай неплацежаздольнасцю або банкруцтвам суб'ектаў гаспадарання, разглядаюцца судом.

### Раздзел II. ЭКАНАМІЧНАЯ НЕПЛАЦЕЖАЗДОЛЬНАСЦЬ СУБ'ЕКТА ГАСПАДАРАННЯ

**Артыкул 6.** Эканамічная неплацежаздольнасць — гэта засведчаная судом няздольнасць суб'екта гаспадарання аплаціць прад'яўленыя фінансавыя дакументы.

**Артыкул 7.** Вядзенне справы аб эканамічнай неплацежаздольнасці ажыццяўляецца з мэтай урэгулявання ўзаемаадносін суб'екта гаспадарання і крэдытораў, прадастаўлення права суб'екту гаспадарання прадоўжыць сваю дзейнасць.

**Артыкул 8.** Падставай для ўзбуджэння вядзення справы аб эканамічнай неплацежаздольнасці з'яўляецца:

няздольнасць суб'екта гаспадарання своечасова аплаціць прад'яўленыя фінансавыя дакументы;

перавышэнне вартасці даўгавых абавязацельстваў над вартасцю маёмасці суб'екта гаспадарання;

прызнанне суб'ектам гаспадарання сваёй эканамічнай неплацежаздольнасці.

**Артыкул 9.** Вядзенне справы аб эканамічнай неплацежаздольнасці ўзбуджаецца:

па заяве крэдытора;

па заяве суб'екта гаспадарання аб сваёй эканамічнай неплацежаздольнасці.

**Артыкул 10.** Пры падачы суб'ектам гаспадарання заявы ў суд аб сваёй эканамічнай неплацежаздольнасці неабходна:

для дзяржаўных прадпрыемстваў — рашэнне ўласніка (упаўнаважанага ім органа) і савета (праўлення) прадпрыемства;

для прадпрыемстваў, заснаваных на калектыўнай уласнасці, — рашэнне ўласнікаў, якія валодаюць не менш чым дзвюма трацямі вартасці маёмасці прадпрыемства;

для прадпрыемстваў, заснаваных на прыватнай уласнасці, — рашэнне ўласніка;

для сумесных прадпрыемстваў і прадпрыемстваў, заснаваных на змешаных формах уласнасці, — рашэнне ўласнікаў, якія валодаюць не менш чым дзвюма трацямі вартасці маёмасці прадпрыемства, або ўпаўнаважаных імі органаў.

Аб рашэнні суб'екта гаспадарання прызнаць сваю эканамічную неплацежаздольнасць паведамляецца працоўнаму калектыву.

**Артыкул 11.** Да вынясення рашэння суда суб'ект гаспадарання мае права прадаўжаць сваю гаспадарчую дзейнасць.

**Артыкул 12.** Пры падрыхтоўцы справы аб эканамічнай неплацежаздольнасці да слухання суд назначае экспертызу фінансава-гаспадарчай дзейнасці суб'екта гаспадарання.

Экспертам можа быць прадстаўнік Камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Беларускай ССР або юрыдычная ці фізічная асоба, якой бакі прадстаўляюць па ўзаемнай дамоўленасці права на правядзенне экспертызы. Пры адсутнасці згоды аднаго з бакоў эксперт назначаецца судом.

У працэсе правядзення экспертызы неабходна:

ажыццявіць аналіз фінансавага стану суб'екта гаспадарання;

вывучыць абгрунтаванасць патрабаванняў крэдытораў;

устанавіць прычыны эканамічнай неплацежаздольнасці суб'екта гаспадарання;

прадставіць суду заключэнне аб выніках экспертызы, а таксама план урэгулявання ўзаемаадносін паміж суб'ектам гаспадарання і крэдыторамі.

**Артыкул 13.** План урэгулявання ўзаемаадносін паміж суб'ектам гаспадарання і крэдыторамі можа прадугледжваць наступныя меры:

чарговасць задавальнення прэтэнзій;

адтэрміноўку да аднаго года тэрміну задавальнення прэтэнзій;

выдзяленне неадкладных прэтэнзій і парадак іх задавальнення;

прапарцыянальнасць задавальнення прэтэнзій;

частковы распродаж маёмасці суб'екта гаспадарання;

рэарганізацыю суб'екта гаспадарання;

іншыя меры.

**Артыкул 14.** У выпадку, калі справа аб эканамічнай неплацежаздольнасці ўзбуджаецца па заяве самога суб'екта гаспадарання, ён можа быць надзелены судом дадатковымі правамі. У прыватнасці, суб'екту гаспадарання можа быць прадастаўлена права:

прадставіць у суд уласны план урэгулявання ўзаемаадносін з крэдыторамі і іншымі зацікаўленымі ў справе суб'ектамі гаспадарання;

атрымаць пазыку або фінансавую дапамогу са спецыяльнага фонду гаспадарчай рызыкі, калі такі ёсць;

атрымаць адтэрміноўку выканання пацверджаных даўгавых абавязацельстваў тэрмінам да трох гадоў.

**Артыкул 15.** У выніку слухання справы аб эканамічнай неплацежаздольнасці суб'екта гаспадарання суд мае права:

адхіліць іскавыя патрабаванні крэдытораў;

прызнаць іскавыя патрабаванні крэдытораў абгрунтаванымі, суб'екта гаспадарання — эканамічна неплацежаздольным, але адтэрмінаваць выкананне ўсіх або асобных пацверджаных даўгавых абавязацельстваў, калі эканамічная неплацежаздольнасць настала па аб'ектыўных прычынах і з'яўляецца часовай, а таксама прызнаць несапраўднымі, спыніць або адтэрмінаваць выкананне тых гаспадарчых пагадненняў, якія прывялі суб'екта гаспадарання да эканамічнай неплацежаздольнасці;

прызнаць іскавыя патрабаванні крэдытораў абгрунтаванымі, суб'екта гаспадарання — эканамічна неплацежаздольным, узбудзіць справу аб банкруцтве.

Аб'ектыўнымі прычынамі могуць быць:

стыхійныя бедствы;

прызнанне судом заключанай здзелкі несапраўднай;

змяненне дзяржавай эканамічных метадаў рэгулявання гаспадарчай дзейнасці суб'екта гаспадарання;

іншыя прычыны, прызнаныя судом.

**Артыкул 16.** На любым этапе разгляду справы аб эканамічнай неплацежаздольнасці адказчык можа ўнесці вызначаны судом залог. У гэтым выпадку вядзенне справы прыпыняецца на тэрмін да аднаго года.

**Артыкул 17.** У выпадку калі план урэгулявання ўзаемаадносін паміж суб'ектам гаспадарання і крэдыторамі ўключае частковы распродаж маёмасці, то яго распродаж ажыццяўляецца даўжніком пад кантролем упаўнаважанай судом асобы.

**Артыкул 18.** У выпадку адхілення патрабаванняў крэдытораў па іску да суб'екта гаспадарання суд вызначае размер кампенсацыі маральнага і матэрыяльнага ўрону, які падлягае спагнанню з іх на карысць адказчыка.

**Артыкул 19.** Па патрабаванню крэдытора суд у тэрміны, устаноўленыя заканадаўствам, можа перагледзець сваё рашэнне па новаадкрытых абставінах.

**Артыкул 20.** Справа аб эканамічнай неплацежаздольнасці лічыцца закончанай, калі даўжнік выведзены са стану неплацежаздольнасці або калі ўзбуджаецца справа аб банкруцтве.

### Раздзел III. БАНКРУЦТВА СУБ'ЕКТА ГАСПАДАРАННЯ

**Артыкул 21.** Банкруцтва — гэта засведчаная судом поўная неплацежаздольнасць суб'екта гаспадарання.

**Артыкул 22.** Мэтай разбору справы аб банкруцтве з'яўляецца максімальна магчымае задавальненне прэтэнзій крэдытораў, ліквідацыя неплацежаздольных суб'ектаў гаспадарання, аб'яўленне суб'екта гаспадарання свабодным ад даўгоў.

**Артыкул 23.** Падставай для ўзбуджэння справы аб банкруцтве з'яўляецца:

заява суб'екта гаспадарання аб сваім банкруцтве;

рашэнне суда аб узбуджэнні справы аб банкруцтве;

заява крэдытора, пададзеная пасля заканчэння ўстаноўленага судом тэрміну для ўрэгулявання ўзаемаадносін паміж крэдыторамі і суб'ектам гаспадарання.

**Артыкул 24.** Пры заяве суб'екта гаспадарання аб сваім банкруцтве неабходна:

для дзяржаўных прадпрыемстваў — рашэнне ўласніка (упаўнаважанага ім органа) і савета (праўлення) прадпрыемства;

для прадпрыемстваў, заснаваных на калектыўнай уласнасці, — рашэнне ўласнікаў, якія валодаюць не менш чым дзвюма трацямі вартасці маёмасці прадпрыемства;

для прадпрыемстваў, заснаваных на прыватнай уласнасці, — рашэнне ўласніка;

для сумесных прадпрыемстваў і прадпрыемстваў, заснаваных на змешаных формах уласнасці, — рашэнне ўласнікаў, якія валодаюць не менш чым дзвюма трацямі вартасці маёмасці прадпрыемства, або ўпаўнаважаных імі органаў.

Аб рашэнні суб'екта гаспадарання аб'явіць сябе банкрутам паведамляецца працоўнаму калектыву.

**Артыкул 25.** Пасля ўзбуджэння справы аб банкруцтве суд публікуе за кошт заяўніка ў афіцыяльных выданнях ўрада Беларускай ССР і мясцовым друку аб'яву аб маючым адбыцца слуханні справы. У аб'яве павінны быць указаны:

назва і адрас суда;

назва і адрас суб'екта гаспадарання;

падстава для ўзбуджэння справы;

зварот да крэдытораў і зацікаўленых бакоў і тэрмін, у які яны могуць прад'явіць сваё прэтэнзіі;

іншыя істотныя абставіны справы.

**Артыкул 26.** Патрабаванні крэдытораў прымаюцца на працягу тэрміну, устаноўленага судом. Патрабаванні, заяўленыя пасля заканчэння ўказанага тэрміну, задавальняюцца з маёмасці прадпрыемства, якая засталася пасля задавальнення патрабаванняў, заяўленых у тэрмін.

**Артыкул 27.** Пасля ўзбуджэння справы аб банкруцтве суд можа назначыць па прадстаўленню крэдытораў або па ўласнай ініцыятыве даверанаю асобу для ажыццяўлення функцый кантролю і кіравання маёмасцю суб'екта гаспадарання.

Даверанай асобай можа быць фізічная або юрыдычная асоба, якая мае права на правядзенне такога віду работ.

**Артыкул 28.** Давераная асоба мае права:

назначаць свайго бухгалтара і іншых асоб для вядзення справы;

прыцягваць экспертаў;

забараняць або дазваляць вытворчую дзейнасць суб'екта гаспадарання;

ставіць перад судом пытанне аб прызнанні несапраўднымі здзелак суб'екта гаспадарання, учыненых на працягу года да пачатку справы аб банкруцтве або да падачы заявы аб эканамічнай неплацежаздольнасці з мэтай утойвання маёмасці або ўхілення ад выплаты даўгоў, а таксама калі суб'ект гаспадарання атрымаў па здзелцы значна менш эканамічна абгрунтаванай цаны маёмасці, або калі суб'ект гаспадарання з'яўляўся неплацежаздольным.

**Артыкул 29.** Суб'ект гаспадарання абавязаны прадставіць даверанай асобе поўны спіс сваіх крэдытораў і дэбітораў з указаннем сумы запазычанасці, разгорнуты баланс актываў і пасіваў, справаздачу аб фінансавым становішчы, усю неабходную інфармацыю, якая змяшчаецца ў кнігах, рахунках і іншых дакументах.

**Артыкул 30.** У тэрмін, устаноўлены судом, давераная асоба абавязана прадставіць заключэнне аб наяўнасці факта банкруцтва суб'екта гаспадарання.

**Артыкул 31.** З моманту прызнання суб'екта гаспадарання банкрутам:

прыпыняецца выплата дывідэндаў, падаткаў і плацяжоў;

не дапускаецца прад'яўленне новых патрабаванняў да яго;

лічацца закончанымі тэрміны пагашэння ўсіх даўгоў;

прыпыняецца вядзенне па ўсіх справах супраць банкрута, звязаных з маёмасцю.

Усе маёмасныя патрабаванні да банкрута могуць быць прад'яўлены толькі ў рамках справы аб банкруцтве.

**Артыкул 32.** Пры прыняцці рашэння аб прызнанні суб'екта гаспадарання банкрутам суд утварае ліквідацыйную камісію на чале з даверанай асобай.

**Артыкул 33.** Ліквідацыйная камісія абавязана:

паведаміць крэдыторам і зацікаўленым бакам аб ліквідацыі прадпрыемства-банкрута;

сканцэнтраваць грашовыя сродкі прадпрыемства-банкрута на адзіным рахунку ў адным банку;

скласці справаздачу аб маёмасці прадпрыемства-банкрута, уключаючы тую, што знаходзіцца пад залогам;

падрыхтаваць план яго ліквідацыі;

закончыць бягучыя справы;

ажыццявіць паэтапную ліквідацыю ўласнасці прадпрыемства-банкрута ў інтарэсах зацікаўленых бакоў;

прадастаўляць крэдыторам, суду, дзяржаўным кантралюючым і падатковым органам, іншым зацікаўленым арганізацыям і асобам неабходную інфармацыю аб маёмасці прадпрыемства-банкрута, аб ходзе працэсу ліквідацыі ўласнасці;

падрыхтаваць заключную справаздачу аб правядзенні ліквідацыі прадпрыемства-банкрута і прадставіць яе ў суд.

**Артыкул 34.** План ліквідацыі павінен адлюстроўваць:

поўную і аб'ектыўную карціну фінансавага стану прадпрыемства-банкрута;

умовы, парадак, чарговасць і прапарцыянальнасць задавальнення прэтэнзій крэдытораў;

улік інтарэсаў уласніка прадпрыемства-банкрута, працоўнага калектыву;

пералік маёмасці, якая падлягае распродажу;

спосаб, месца і час распродажу маёмасці;

умовы аплаты судовых выдаткаў, дзейнасці экспертаў, членаў ліквідацыйнай камісіі, давераных і іншых асоб.

**Артыкул 35.** З мэтай абароны сваіх інтарэсаў крэдыторы маюць права дзейнічаць праз сваіх прадстаўнікоў.

Прадстаўнікі крэдытораў маюць права:

прадстаўляць інтарэсы крэдытораў у судзе;

атрымліваць інфармацыю аб фінансавым стане прадпрыемства-банкрута, аб стане яго маёмасці;

ажыццяўляць кантроль за дзеяннямі даверанай асобы;

знаёміцца з планам ліквідацыі прадпрыемства-банкрута;

абскардзіць дзеянні даверанай асобы, ліквідацыйнай камісіі ў судзе.

**Артыкул 36.** План ліквідацыі прадпрыемства-банкрута павінен быць узгоднены з крэдыторамі і лічыцца адобраным, калі падтрыманы крэдыторамі, якія прадстаўляюць не менш дзвюх трацей сумы патрабаванняў. Калі план ліквідацыі не адабраецца, а крэдыторы не прадставілі ў вызначаны судом тэрмін уласны план ліквідацыі прадпрыемства-банкрута, то суд зацвярджае план, прапанаваны ліквідацыйнай камісіяй.

У выпадку, калі ініцыятарам узбуджэння справы быў сам суб'ект гаспадарання, то ён можа прадставіць свой план ліквідацыі прадпрыемства.

**Артыкул 37.** На падставе зацверджанага плана ліквідацыі ажыццяўляюцца распродаж маёмасці і задавальненне прэтэнзій да даўжніка ў наступнай чарговасці:

даўгавыя абавязацельствы пад залог маёмасці;

даўгавыя абавязацельствы па выплаце заработнай платы, аплаце працы экспертаў, членаў ліквідацыйнай камісіі, давераных і іншых асоб, абавязацельствы, якія выцякаюць з працоўных праваадносін, судовыя выдаткі па дадзенай справе;

кантрактныя абавязацельствы па аплаце атрыманых прадпрыемствам тавараў, аплаце работ і паслуг, штрафаў і няўстоек, падаткаў і плацяжоў у бюджэт;

незабяспечаныя абавязацельствы па аблігацыях і іншых відах каштоўных папер, выпушчаных для рэалізацыі сярод грамадзян, а таксама даўгавыя абавязацельствы перад банкамі;

абавязацельствы перад акцыянерамі і пайшчыкамі;

іншыя абавязацельствы даўжніка.

**Артыкул 38.** Распродаж маёмасці банкрута ажыццяўляецца пры дапамозе публічных таргоў, аб месцы і часе правядзення якіх ліквідацыйная камісія аб'яўляе ў афіцыяльных выданнях урада Беларускай ССР і мясцовым друку не пазней чым за дзесяць дзён да іх пачатку. Маёмасць даўжніка можа распрадавацца паэтапна, але заўсёды публічна і па эканамічна абгрунтаваных цэнах.

**Артыкул 39.** Атрыманыя ад продажу сумы размяркоўваюцца паміж крэдыторамі па плану ліквідацыі прадпрыемства-банкрута. Плацяжы павінны праводзіцца па меры продажу маёмасці даўжніка. Канчатковая выплата ажыццяўляецца пасля продажу ўсёй маёмасці ў адпаведнасці з планам ліквідацыі.

Аб правядзенні апошняй выплаты павінна быць публікацыя.

**Артыкул 40.** Правы асоб, працаваўшых на прадпрыемстве, якое ліквідуецца, рэгулююцца заканадаўствам Беларускай ССР.

**Артыкул 41.** Пры ліквідацыі прадпрыемства-банкрута незалежна ад чарговасці задавальнення прэтэнзій да даўжніка ажыццяўляецца капіталізацыя пачасовых плацяжоў, якія належаць выплаце з гэтага прадпрыемства ў сувязі з прычыненнем калецтва, іншага пашкоджання здароўя або са смерцю грамадзяніна.

**Артыкул 42.** Калі план ліквідацыі прадугледжвае выкуп маёмасці прадпрыемства і пагашэнне яго даўгоў працоўным калектывам, то распродаж маёмасці праз таргі не праводзіцца.

**Артыкул 43.** Астатак вартасці маёмасці, якая ліквідуецца, пасля задавальнення патрабаванняў крэдытораў і аплаты расходаў па вядзенню справы атрымлівае даўжнік — уласнік маёмасці.

Не распрададзеная ў працэсе ліквідацыі маёмасць выкарыстоўваецца па ўказанню даўжніка-ўласніка.

**Артыкул 44.** Даўгавыя абавязацельствы, не задаволеныя за недахопам маёмасці, лічацца пагашанымі.

**Артыкул 45.** Пасля заканчэння працэсу ліквідацыі прадпрыемства ліквідацыйная камісія перадае заключную справаздачу на захоўванне ў адпаведны архіў, паведамляе ў Міністэрства фінансаў Беларускай ССР і ў Дзяржаўны камітэт Беларускай ССР па статыстыцы і аналізу для выключэння прадпрыемства з дзяржаўных рэестра і рэгістра Беларускай ССР. Пры ліквідацыі прадпрыемства, якое ажыццяўляе знешнеэканамічную дзейнасць, дадаткова паведамляецца Дзяржаўнаму камітэту Беларускай ССР па знешнеэканамічных сувязях і Банку знешнеэканамічнай дзейнасці Беларускай ССР.

**Артыкул 46.** З моманту выключэння прадпрыемства з рэестра дзяржаўнай рэгістрацыі Беларускай ССР яно лічыцца ліквідаваным, справа аб банкруцтве — спыненай, а даўжнік — свабодным ад даўгоў.

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР
**М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

30 мая 1991 г.
гор. Мінск.

## Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб увядзенні ў дзеянне Закона Беларускай ССР «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве»

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі п а с т а н а ў л я е:

1. Увесці ў дзеянне Закон Беларускай ССР «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве» з 1 ліпеня 1991 года.

2. Да правядзення заканадаўства Беларускай ССР у адпаведнасць з Законам Беларускай ССР «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве» акты дзеючага заканадаўства прымяняюцца, паколькі яны не супярэчаць дадзенаму Закону.

3. Закон Беларускай ССР «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве» прымяняецца да праваадносін, якія ўзніклі пасля ўвядзення Закона ў дзеянне, гэта значыць з 1 ліпеня 1991 года. Па праваадносінах, якія ўзніклі да 1 ліпеня 1991 года, Закон Беларускай ССР «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве» прымяняецца да тых правоў і абавязкаў, якія ўзнікнуць пасля ўвядзення Закона ў дзеянне.

4. Савету Міністраў Беларускай ССР:

распрацаваць і да 1 ліпеня 1991 года зацвердзіць Палажэнне аб умовах і парадку дзейнасці экспертаў і давераных асоб у выпадках эканамічнай неплацежаздольнасці або банкруцтва суб'ектаў гаспадарання;

да 1 кастрычніка 1991 года прадставіць у Вярхоўны Савет Беларускай ССР прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Беларускай ССР у адпаведнасць з Законам Беларускай ССР «Аб эканамічнай неплацежаздольнасці і банкруцтве»; прывесці ў адпаведнасць з дадзеным Законам пастановы і распараджэнні ўрада Беларускай ССР; забяспечыць перагляд і адмену міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і ведамствамі Беларускай ССР іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць дадзенаму Закону.

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР
**М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

30 мая 1991 г.
гор. Мінск.

## Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

# Аб прадпрымальніцтве ў Беларускай ССР

Гэты Закон вызначае прававыя, эканамічныя асновы прадпрымальніцтва, агульныя палажэнні арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці, рэгламентуе парадак рэгістрацыі і спынення дзейнасці, правы, абавязкі і адказнасць суб'ектаў прадпрымальніцтва, устанаўлівае меры дзяржаўнай абароны, падтрымкі і рэгулявання прадпрымальніцтва ў Беларускай ССР.

Закон накіраваны на стварэнне ўмоў для шырокага праяўлення гаспадарчай ініцыятывы і прадпрымлівасці грамадзян на аснове рэалізацыі прынцыпу роўнасці ўсіх форм уласнасці, свабоды распараджэння маёмасцю і выбару сфер дзейнасці.

Парадак стварэння і рэгістрацыі канкрэтных арганізацыйна-прававых форм прадпрымальніцкай дзейнасці рэгулюецца адпаведным заканадаўствам Беларускай ССР.

**Артыкул 1. Паняцце прадпрымальніцтва.**

Прадпрымальніцтва (прадпрымальніцкая дзейнасць — самастойная, ініцыятыўная дзейнасць грамадзян, якая накіравана на атрыманне прыбытку або асабістага даходу і ажыццяўляецца ад свайго імя, на сваю рызыку і пад сваю маёмасную адказнасць або ад імя і пад маёмасную адказнасць юрыдычнай асобы (прадпрыемства).

Прадпрымальніцкая дзейнасць можа ажыццяўляцца ў выглядзе індывідуальнай працоўнай дзейнасці, а таксама ў розных арганізацыйна-прававых формах прадпрыемстваў (юрыдычных асоб).

**Артыкул 2. Суб'екты прадпрымальніцтва.**

Суб'ектамі прадпрымальніцтва з'яўляюцца:

фізічныя асобы, не абмежаваныя ў правах у парадку, які вызначаецца заканадаўчымі актамі Беларускай ССР і СССР, у тым ліку замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства ў межах правоў і абавязкаў, прадугледжаных дзеючым заканадаўствам Беларускай ССР;

групы грамадзян (партнёраў) — калектывы прадпрымальнікаў.

Не дапускаецца займанне прадпрымальніцкай дзейнасцю кіруючымі работнікамі і спецыялістамі дзяржаўных органаў, у функцыі якіх уваходзіць вырашэнне пытанняў, звязаных з ажыццяўленнем прадпрымальніцкай дзейнасці, або кантроль за такой дзейнасцю.

**Артыкул 3. Формы прадпрымальніцтва.**

У Беларускай ССР устанаўліваюцца наступныя формы прадпрымальніцкай дзейнасці:

прыватнае прадпрымальніцтва, якое ажыццяўляецца суб'ектамі прадпрымальніцтва на аснове сваёй уласнасці або на аснове маёмасці, што атрымана і выкарыстоўваецца на законнай падставе;

калектыўнае прадпрымальніцтва, якое ажыццяўляецца прадпрымальнікамі на аснове калектыўнай уласнасці або на аснове маёмасці, што атрымана і выкарыстоўваецца на законнай падставе.

Прадпрымальніцтва можа ажыццяўляцца без утварэння юрыдычнай асобы і з утварэннем юрыдычнай асобы, без выкарыстання наёмнай працы і з выкарыстаннем наёмнай працы.

Асобай формай прадпрымальніцтва з'яўляецца прадпрымальніцкая дзейнасць, якая ажыццяўляецца кіраўніком прадпрыемства, калі ён на аснове кантракта з уласнікам маёмасці або ўпаўнаважанай ім асобай (органам) надзелены правамі і абавязкамі і нясе адказнасць, устаноўленую для прадпрымальніка.

**Артыкул 4. Заканадаўства аб прадпрымальніцтве.**

Ажыццяўленне прадпрымальніцкай дзейнасці і адносіны, звязаныя з прадпрымальніцтвам, незалежна ад форм уласнасці, віду і сферы дзейнасці рэгулююцца гэтым Законам і іншымі заканадаўчымі актамі Беларускай ССР.

Калі прадпрымальніцкая дзейнасць ажыццяўляецца на падставе ўтварэння або набыцця прадпрыемства, якое з'яўляецца юрыдычнай асобай, яна рэгулюецца таксама Законам Беларускай ССР «Аб прадпрыемствах у Беларускай ССР» і іншым заканадаўствам аб прадпрыемствах, паколькі іншае не прадугледжана гэтым Законам.

Асаблівасці прадпрымальніцкай дзейнасці замежных грамадзян рэгулююцца таксама заканадаўствам Беларускай ССР аб замежных інвестыцыях на тэрыторыі Беларускай ССР.

**Артыкул 5. Дзяржаўная рэгістрацыя прадпрымальнікаў.**

Статус прадпрымальніка набываецца пры дапамозе дзяржаўнай рэгістрацыі ў парадку, устаноўленым гэтым Законам і іншым заканадаўствам Беларускай ССР.

Дзяржаўная рэгістрацыя прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць з утварэннем юрыдычнай асобы, праводзіцца на падставе Закона Беларускай ССР «Аб прадпрыемствах у Беларускай ССР» і іншага заканадаўства Беларускай ССР.

Дзяржаўная рэгістрацыя прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, праводзіцца выканаўчымі камітэтамі раённых, гарадскіх, раённых у гарадах Саветаў народных дэпутатаў па месцы жыхарства прадпрымальнікаў.

Для дзяржаўнай рэгістрацыі прадпрымальнікаў у выканаўчы камітэт адпаведнага Савета народных дэпутатаў прадстаўляюцца заява прадпрымальніка, ліцэнзія, калі дадзены від дзейнасці падлягае ліцэнзаванню, і дакументы, якія пацвярджаюць кваліфікацыю прадпрымальніка, калі яго дзейнасць можа ўяўляць пагрозу жыццю і здароўю людзей або навакольнаму асяроддзю.

Дзяржаўная рэгістрацыя прадпрымальніка павінна быць праведзена не пазней 30 дзён з моманту падачы неабходных дакументаў у выканаўчы камітэт адпаведнага Савета народных дэпутатаў.

Адмова ў дзяржаўнай рэгістрацыі прадпрымальніка па матывах немэтазгоднасці яго дзейнасці не дапускаецца.

Калі дзяржаўная рэгістрацыя прадпрымальніка ва ўстаноўлены тэрмін не ажыццяўляецца або ў ёй адмоўлена па матывах, якія прадпрымальнік лічыць неабгрунтаванымі, ён можа звярнуцца ў суд.

За дзяржаўную рэгістрацыю прадпрымальніка з яго бярэцца плата ў размерах, якія ўстанаўліваюцца заканадаўствам Беларускай ССР. Атрыманыя сродкі залічваюцца ў бюджэт раёна, горада, раёна ў горадзе, па месцы рэгістрацыі прадпрымальніка.

**Артыкул 6. Правы прадпрымальніка.**

Прадпрымальнік мае права:

займацца любой гаспадарчай дзейнасцю, не забароненай заканадаўствам Беларускай ССР;

ствараць любыя прадпрыемствы, арганізацыя якіх не супярэчыць заканадаўству Беларускай ССР;

прыцягваць на дагаворных пачатках для вядзення прадпрымальніцкай дзейнасці маёмасць, грашовыя сродкі і асобныя маёмасныя правы іншых грамадзян, прадпрыемстваў і арганізацый, у тым ліку замежных юрыдычных і фізічных асоб;

удзельнічаць сваёй маёмасцю і маёмасцю, атрыманай на законнай падставе, у дзейнасці іншых гаспадарчых суб'ектаў;

самастойна фарміраваць праграму гаспадарчай дзейнасці, выбіраць пастаўшчыкоў і спажыўцоў сваёй прадукцыі, устанаўліваць цэны і тарыфы на прадукцыю (работы, паслугі) у адпаведнасці з заканадаўствам Беларускай ССР і заключанымі дагаворамі;

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

